# ІСКРЫ ІЛЬІЧА



№ 12 СНЕЖАНЬ 1935



# СЯРГЕЙ МІРОНАВІЧ КІРАЎ

Год таму назад ад кулі заклятага ворага партыі і ўсіх працоўных загінуў Сяргей Міронавіч Кіраў — вялікі большэвік, лепшы памочнік і друг таварыша Сталіна.

18-гадовым юнаком Кіраў уступіў у партыю і разам з партыяй змагаўся супроць царскага ўрада. За гэта царская паліцыя чатыры разы арыштоўвала яго і саджала ў турму.

Пасля Кастрычніцкай рэволюцыі Кіраў заўсёды быў там, дзе партыі патрэбны былі храбрыя і здольныя кіраўнікі. Апошнія дзевяць год свайго жыцця Кіраў працаваў у Ленінградзе.

Кіраў вельмі любіў дзяцей, клапаціўся аб іх; ён быў вялікім другам піонераў і акцябрат.

Вестка аб забойстве дарагога Сяргея Міронавіча ўскалыхнула ўсю нашу краіну. Юныя піонеры разам з дарослымі стаялі ў ганаровай варце Сяргея Міронавіча і разам з дарослымі заявілі:

— Смерць ворагам! Будзем гатовы прадаўжаць справу Кірава!

# ПАДПОЛЬНАЯ ДРУКАРНЯ

*Д. НЕЎСІХІН*

Гэта было даўно, у горадзе Томску, калі Сяргею Міронавічу Кіраву было ўсяго дваццаць год. Адзін таварыш сказаў яму:

— Партыя купіла дом № 17 па Апалінараўскаму завулку. Вам, таварыш Сяргей, партыя даручае наладзіць у гэтым доме падпольную друкарню. У гэтай друкарні мы будзем друкаваць нашу рэволюцыйную газету. Памагаць вам будуць яшчэ трое таварышоў. Пачынайце работу безадкладна.

На другі дзень к дому № 17 па Апалінараўскаму завулку падышло чацвёра рабочых. У руках у іх былі сякеры, пілы, рубанкі і рыдлёўкі. Рабочыя распачалі рамонт. Перш за ўсё яны ўзламалі ў адным пакоі падлогу і сталі капаць пад домам вялікую глыбокую яму—цэлы склеп. Хутка на дварэ выраслі вялікія кучы зямлі. Суседзі сталі гаварыць:

— Вось які клапатлівы новы гаспадар! Які ён склеп на зіму робіць. Напэўна, шмат туды ўлезе бульбы, гуркоў ды капусты!

Ніхто з суседзяў не здагадваўся, што рабочыя капалі склеп для падпольнай друкарні.

Гэтыя рабочыя і былі рэволюцыянеры—Сяргей Кіраў і яго таварышы.

Сяргей працаваў больш за ўсіх і да крыві нацёр рукі. Рукі так балелі што ўночы Сяргей не мог спаць. Але назаўтра ён абкручваў рукі анучкамі і зноў браўся за рыдлёўку. Хутка падполле было выкапана. Яго закрылі зверху дошкамі, на дошкі насыпалі тоўсты пласт зямлі, потым зноў паслалі ў пакоі падлогу, а ход у друкарню зрабілі патайны.

Толькі скончылі работу—з'явілася паліцыя. Невядома, як яна даведалася, што ў гэтым доме робяць друкарню.

Паліцэйскія сталі шукаць, усё абшнарылі, падлогу зламалі, капалі зямлю пад падлогай—нічога не знайшлі.

Сяргея і яго таварышоў забралі ў турму. А ў доме пасялілі паліцэйскіх. Няхай жывуць і глядзяць—ці не заўважаць дзе друкарня?




Месяц жывуць паліцэйскія—нічога не знаходзяць. Год жывуць—нічога не заўважаюць. Тры гады жывуць—усё нічога не відаць.

На чацверты год здарылася ў доме землятрасенне. Падлога задрыжала, сцены закалаціліся, і вялікая печ раптам на вачах у паліцэйскіх правалілася.

Яна правалілася ў падполле, якое выкапалі рэволюцыянеры. Там прагніла столь.

Паліцэйскія выклікалі пажарную каманду. Пажарныя разабралі ўвесь дом па бервяну. Тут усе і ўбачылі друкарню. Калі-б столь у друкарні не абвалілася, паліцыя-б ніколі нічога не знайшла. Сяргей Кіраў і яго таварышы добра ўмелі схаваць сваю друкарню.

# ФАНТАЗІЯ

*Апавяданне С. БАРАНАВЫХ* *Рысункі В. ЦІХАНОВІЧА*

Цяпер прышла белая зіма. На дварэ ад снегу вунь як холадна. Каб маладому саду не было холадна, яго абвязалі саломай. Калі гляджу я праз акно—кожнае дрэўца стаіць, як у белай кажурыне. Толькі вяршкі саломы тырчаць, як рыжыя вусы.

„Хаця-б каб цёпла было нашаму саду". Я думаю пра ўвесь сад, а найбольш не выходзіць з маіх думак мой „трышчэп", на якім будуць расці разам слівы, яблыкі і грушы. Сідар Нікіфаравіч казаў мне: „Ты можаш быць добрым садоўнікам. У цябе ўжо ёсць свая фантазія". Хоць яму нічога я і не адказаў на гэта, але з ім, сам сабе, згадзіўся. Мяне толькі ўсё-ж цяпер цікавіць: як гэта дрэўца будзе расці з трыма прышчэпкамі? Хай сабе будзе яно расці і на тры часткі—такое вілаватае,—а харч з зямлі для яго будзе адна? І ўсё-ж такі вельмі цікава: вырасце яно, а ты ўзлезь сабе ды еш... Сліву адшчыкнуў, а потым грушу-сапяжанку. Яблык можаш паспрабаваць... Табе тут усё разам.

Я не зводжу з вока майго „трышчэпа". Устаю раніцай і так сабе кідаю позірк праз акно. Прыду з школы—праходжуся, часамі, за хату—пазіраю здалёк...

— Не трэба хадзіць зімою каля маладых дрэўцаў,—кажа Сідар Нікіфаравіч.—Зімою на марозе вельмі крохкія маладыя галінкі. Абы дакрануўся—яны і ломяцца.

Я і не хаджу. Я здалёк бачу маё дрэўца. Вось і цяпер я стаю за хатай. Увесь сад усланы гладкім снегам, як адным суцэльным абрусам. Пад нізкім сонцам снег аж пераліваецца. Здаецца гэта і не снег, а па маладым садзе рассыпаны залатыя зіхацячыя зоры. І не зоры нават, а зацвіў малады сад і цвіце яго ружовым цветам уся зямля...

„Пачакай, пачакай...—углядаюся я раптам у белы снег.—Э-э-э...—кажу сам сабе.—Сляды! Раз, два, тры... Раз, два, тры... заячыя сляды!"

Сідар Нікіфаравіч такі і казаў, што могуць зайцы лазіць у сад. Іду я па слядах якраз да майго дрэўца. Не паспелі абгарадзіць саду, вось табе і маеш...

І калі падыходжу я да самага дрэўца—увесь снег збаранаваны заячымі слядамі. Іх было тут, мабыць, сто штук!

„От-жа, няма на вас па-а-гі-бе-лі... а-я-яй!"

Я аглядаю вяршкі дрэўца, мацаю рукою салому... Яны нічога, здаецца, не кранулі. Дык гэта-ж добра, што яны не аб'елі, але яшчэ-ж уся зіма

наперадзе. Яны былі, мабыць, у розведах і не зачапілі? А можа хто ім перашкодзіў?

„Што-ж гэта рабіць?—Адну хвіліну разважаю я.—Трэба рабіць нейкі ратунак“.

* * *

Тое, што я зрабіў для зайцоў, ніхто не ведае. Учора зрабіў, а сёння, як змерклася, каб ніхто не бачыў—паставіў. Я зрабіў для іх—сіло!

Рыгораў Тарасік зрабіў сіло для сініц. Яго бацька сварыцца, каб ён не калечыў птушак, дык ён лавіў іх сцішка. Тарасік казаў мне:

— Я іх і не калечу. Бацька дарэмна сварыцца... Я хачу, каб яны былі свойскія. От я злаўлю яе каторую, пакармлю каноплямі, ды зноў выпускаю, хай сабе ляціць...

— А ўсё-ж такі,—казаў я Тарасіку,—у той сініцы, што ты злавіў, выкруцілася нага...

Тарасік тады маўчаў. Яму, мабыць, было сорамна.



Я і не лаўлю птушак. Яны-ж будуць лавіць на нашым маладым садзе розных чарвякоў. А зайцоў, канешна, можна лавіць. Толькі для сініц сіло робіцца з валасні, а зайцам гэтага мала. Што яму каторау значыць, хоць сабе валасня і ў дваццаць столак?

У нас ад вайны астаўся тэлефонны провад, і я зрабіў засмаргі з гэтага провада. Ён такі гладкі, скруцісты і чорны. Я знайшоў старое, непатрэбнае дно і пракруціў у ім дзесяць дзірак. Тады канцы провада зацягнуў у дзіркі і моцна іх заклінаваў.

„Не вырве нагі, калі пападзецца каторы!"

А потым парабіў засмаргі і так старчма паставіў іх сярод канюшыны (зайцы вельмі любяць канюшыну). Сіло я добра такі прывязаў за колік, што трымае маё дрэўца. Тады яшчэ кругом сіла панатыкаў у снег канюшыны. Калі глядзець здалёк, дык вышла яно—нібы вырасла на снягу канюшына. І нават яшчэ па каліву канюшыны аднёс на адзін, на тры шагі ад дрэўца, каб зайцы па гэтых „тычках" ішлі да самага сіла.

Усё гэта я зрабіў сёння вечарам, а цяпер лёг спаць і думаю сам сабе: „Што ўжо будзе раніцай! Можа нават два зайцы ўсіліцца. Два не-два,— зноў думаю,—а што адзін—можа ўскочыць. Адзін зловіцца, дык другі тады, канешне, не палезе. Той, што ўлезе ў засмаргу, пачне трапятацца і ўсе другія ўцякуць. Убачаць, што злавіўся іхні дружака... Заяц-жа вельмі



вялікі трус! А можа і два ўлезе? Калі будуць разам есці канюшыну і ўпхнуць адразу адзін аднаго, там-жа доўга не трэба. Ледзь кране нагою і тады, брат, выбачай! Гэты дрот ужо не пусціць. А колькі тады будзе гаворак? Усе нашы калгаснікі возьмуцца за галаву... усе будуць дзіву дзівіцца, скажуць: „Ог-жа, глядзі ты! Вось табе які наш Вінька—два зайцы злавіў і сад абараніў!“ І няхай-жа яны тое сабе ведаюць, як злавіў? У сіло злавіў!

Я сам сабе крышачку ўсміхаюся і мне вельмі прыемна спаць. Я хачу, каб хутчэй заснуць, каб не доўгая была ноч. Засну і не агледжуся, калі пройдзе гэта ноч. А заўтра, як толькі пачне ледзь развідневаць... хто ведае, што ўжо будзе заўтра?

* * *

Прайшло ўжо тры ночы і я не ведаю, што мне рабіць. Кожную раніцу, на цямочку, я іду глядзець—і нічога. Заячыя сляды даходзяць аж да самага сіла. Ог гэтак—паскакана, паскакана кругом і нават пааб'яданы дзе-ні-дзе канюшынныя галоўкі. І ніводзін, ліханька яму, не ступіць нагою на сіло! Яны, мусіць, чуюць, што тут для іх зроблена пастка? А можа яны вельмі хітрыя?

Але я ўсёроўна нікому не кажу. Я яшчэ буду чакаць некалькі начэй. Нідзе яны дзенуцца! Некаторы з іх адважыцца, і хітрасці ў яго не хопіць.

Цяпер я іду са школы і гэтак скоса кідаю вокам цераз наш плот. Канюшына здалёк была ледзь прыкметна...

„Што-ж гэта...—углядаюся я яшчэ больш туды, дзе была канюшына.— Нехта яе, мусіць, з'еў? Ці можа, расцерушыў? Здаецца, яна параскідана кругом па снягу“...

Іду ў хату, каб пакласці мае кніжкі. Палажу і зараз агледжу, што там такое? Можа яны ўзялі і сярод дня ўлезлі?

І толькі я адчыняю хату, а ў нас—Тарасікава матка. І Сідар Нікіфаравіч дома... Усе адрасу пазіраюць на мяне і нечага ўсміхаюцца.

— Мароз, каб на яго, аж трашчыць!—кажу я, кладучы на стол мае кніжкі і паціраю мае рукі.—А нанач—яшчэ большы бярэцца...

Тарасікава матка як і не чула, што я кажу пра мароз. Яна яшчэ нечага ўсміхаецца, а потым і кажа:

— Ці не ты, мае дзеткі (гэта да мяне), паставіў сіло?

— Ну, дык што? — пазіраю я неміргнуўшы вокам на Тарасікаву матку.

— Нічога, мае дзеткі...—зноў усміхаецца.—Гэта-ж у тваё сіло ўлез наш Лыска... Пераеў аборку (мусіць, сіло было прывязана) і прыцягнуў яго на трох нагах аж на двор...

Ад гэтакіх слоў мне зрабілася горача. Момант адчуваў я гарачыню, а потым да мяне падскочыла вялікая злосць.

— А нашто пускаць, каб хто папытаў,—сказаў я,—вашага Лыску ў сад?! Цяпер-жа крохкія на садзе галінкі і ён не адну зломіць. Вы, хіба, не можаце ўзяць Лыску на прывязь? Праз вашага Лыску, цяпер я ведаю, і зайцы не палезлі ў сіло. І ён недзе, мусіць, усю маю канюшыну расцерушыў...

Я кажу гэтак, а яны ўсе — і Тарасікава матка і мая матка, і сястра Волька—як зарагочуць...

— Тут няма ніякага рогату...—крышачку я, бадай што, пачырванеў.— Зайцы, вунь, могуць увесь малады сад аб'есці! І ніхто аб гэтым не падумае...

А Сідар Нікіфаравіч увесь час нават не ўсміхнуўся.

— Маладзец, Вінька, маладзец!—кажа,—у цябе і на зайцоў знайшлася фантазія. Вельмі добра! Трэба сад абгарадзіць ад зайцоў. Толькі ў сіло, браце, іх не зловіш. Трэба сказаць нашым паляўнічым хай павартуюць са стрэльбай. Ты іх прынадзіў канюшынаю і яны будуць прыходзіць. А вясною мы абгародзім наш сад. Тады яны не ўлезуць.

Пачаў гаварыць Сідар Нікіфаравіч, і ўсе яны адразу пакінулі рагатаць. Цяпер ім—бачыў я—было сорамна. І няхай! Няма чаго з чалавека, за яго фантазію, насміхацца.





## Народны паэт БССР Янка Купала.

**Янка Купала шырока вядомы ўсяму Совецкаму саюзу паэт. Яго прыгожыя вершы і песні пра новае радаснае жыццё працоўных нашай радзімы, пра мудрага дарагога Сталіна з любоўю чытаюцца ўсімі рабочымі, калгаснікамі і дзецьмі.**

**Сёлета ў снежні месяцы споўнілася 30 год літаратурнай творчасці Янкі Купалы. Шчырае прывітанне народнаму паэту БССР ад чытачоў журнала „Іскры Ільіча“!**

# ЯК Я МОЛАДА БЫЛА...

***ЯНКА КУПАЛА***

Як я молада была,
Гаравала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.

Не хапала той зямлі,
Не хапала ежы;
Ні той скваркі хоць калі,
Ні цэлай адзежы.

Бацька гоніць на начлег,
Маці ў двор да пана;
Ні вясёласці, ні ўцех
Ад долі паганай.

А сягоння, во, мае
І дзеці і ўнукі —
Кожны ўдоваль есць і п'е,
Не ведаюць мукі.

Ці Кастрычнік, ці той Май, —
Гонару набралі, —
Ім ядваб ужо давай,
Не хочуць паркалю.

Патэфоны граюць ім,
Радыё іграе;
Не было ў жыцці маім
Гэтакага раю.

Як я молада была,
Гаравала многа...
Ад сяла і да сяла
Блукала знямога.





# ЛОДЫРЫ І КОТ

*Верш С. МАРШАКА*

*Рысункі А. ШАХРАЯ*

Вышлі з дому лодыры
На урок,
А папалі лодыры
На каток.

Тоўсты ранец з кніжкамі
У руках,
А канькі-снягурачкі
На нагах.

Раптам бачаць лодыры,
Як з варот
Хмуры, узлахмачаны
Выбег кот.

Запыталі лодыры
У яго:
— Ты чаго нахмурыўся?
Ну, чаго?

Мяўкнуў сумна, жаласна
Шэры кот:
— Мне, кату вусатаму,
Хутка год.

Я не дурань, лодыры,
Не тупы,
Але вось у грамаце
Я сляпы.

Не пускаюць ў школу нас,
Ні ў дзетсад,
І не вучаць грамаце
Кацянят.

А цяпер без граматы
Цяжка жыць;
Без яе ні з'есці нам,
Ні папіць.

Без яе ні прозвішча
Напісаць,
Ні на доме нумара
Прачытаць.

Адказалі лодыры:
— Мілы кот!
Ну, а нам дванаццаты
Хутка год.

Вучаць нас і грамаце—
Так і сяк,—
А не могуць вывучыць
Аніяк!

Нам вучыцца, лодырам,
Штосьці лень.
На каньках катаемся
Цэлы дзень.

Не бярэм мы грыфеля
І ў руку,
А канькамі пішам мы
На катку.

Адказаў тут лодырам
Шэры кот:
— Мне, кату вусатаму,
Скора год.

Шмат я ведаў лодыраў
І да вас.
Але гэткіх бачу я
Першы раз.

*Пераклад А. Зіміонкі*





# НОВАЯ ВОПРАТКА ІМПЕРАТАРА



*Казка Г. АНДЭРСЕНА* — *Рыс. А. ВОЛКАВА*



Многа год таму назад жыў імператар. Ён так любіў прыгожыя новыя вопраткі, што траціў усе свае грошы, каб толькі найлепш прыбрацца. Ён не клапаціуся аб сваіх салдатах і думаў толькі пра тое, каб пафарсіць новым адзеннем. На кожны час дня ў яго быў асобны мундзір.

У горадзе, у якім ён жыў, было вельмі весела, і кожны дзень прыязджала многа чужаземцаў. Аднойчы прыехалі двое ашуканцаў, якія выдалі сябе за ткачоў. Яны даводзілі, што ўмеюць ткаць лепшае сукно, якое толькі можна ўявіць. Не толькі фарбы і ўзоры гэтага сукна незвычайна прыгожыя, але сама вопратка, якая шылася з яго, была такая, што людзі непрыгодныя для сваёй работы або зусім дурныя не маглі яе бачыць.

„Ах, якія дзіўныя вопраткі!—думаў імператар.—Вось калі-б у мяне была такая вопратка, я мог-бы даведацца, якія людзі ў маёй дзяржаве непрыгодны для сваіх пасад і мог-бы адрозніць дурняў ад разумных. Трэба зараз-жа наткаць сабе такога сукна“.

І ён даў ашуканцам вялікі задатак і загадаў зараз-жа пачаць работу.

Сапраўды, яны паставілі два ткацкіх станкі і прыкінуліся, што ткуць,— але на станках у іх не было нічога. З першай-жа хвіліны яны запатрабавалі найтанчэйшага шоўку і самага лепшага золата. Але шоўк і золата яны схавалі ў свае кішэні, апрацавалі над пустымі станкамі да самай ночы.

„Хацелася-б мне ведаць, ці многа яны наткалі сукна“, думаў імператар; але ў яго скрэбліся кошкі на сэрцы пры думцы, што той, хто дурны або непрыгодны для сваёй пасады, не можа ўбачыць сукна... Вядома, ён быў упэўнены, што за сябе яму няма чаго баяцца; але ўсё-ж ён лічыў лепш

паслаць каго-небудзь іншага паглядзець, як ідзе работа. У горадзе ўжо ўсе прачулі пра гэтае сукно, і кожны цікавіўся даведацца, наколькі дурны ці няздольны яго сусед або знаёмы.

— Пашлю я хіба да ткачоў свайго старога сумленнага міністра,—парашыў імператар.—Ён хутчэй за ўсіх убачыць, што за сукно. Чалавек ён разважлівы і для яго пасады цяжка знайсці больш здольную асобу...

І вось стары дабрак-міністр пайшоў у залу, у якой над пустымі станкамі сядзелі абодва ашуканцы.

„Што такое?—падумаў міністр і шырока раскрыў вочы.—Ды я-ж нічога не бачу".—Але ён гэтага не выказаў уголас.

Ашуканцы запрасілі яго падыйсці бліжэй і спыталі:

— Ці-ж не праўда, які дзіўны ўзор, якія прыгожыя фарбы?—Пры гэтым яны паказалі на пусты станок.

Бедны міністр з усяе сілы цёр сабе вочы, але не мог нічога ўбачыць: бо нічога перад ім і не было.

„Што такое?—падумаў ён.—Няўжо я дурны? Сам я ніколі гэтага не заўважаў, і трэба, каб ніхто гэтага не ведаў. Няўжо я непрыгодны для сваёй пасады? Не, я не скажу, што не мог убачыць сукна".

— Ну, што скажаце?—спытаў адзін з тых, што сядзелі каля станка.

— О, прыгожае сукно, прыгожае!—адказаў стары міністр, пільна ўглядаючыся праз акуляры. —Які ўзор, якія фарбы! Ды я зараз-жа перадам імператару, што мне спадабалася.

— Як прыемна гэта чуць!—сказалі ткачы і пачалі называць фарбы і тлумачыць хітры ўзор. Стары міністр уважліва слухаў, каб потым перадаць іхнія словы імператару. Так ён і зрабіў.

Між тым ткачы патрабавалі ўсё больш грошай, усё больш золата і шоўку, нібы-та для тканіны. На самай справе яны ўсё гэта



клалі ў свае кішэні. На станок не трапляла ніводнай ніткі, але яны як і раней працавалі над пустымі станкамі.

Імператар хутка знайшоў другога прастадушнага чыноўніка, якому даручыў даведацца, як ідзе работа і ці хутка будзе гатова сукно.

З ім адбылося тое-ж самае, што і з міністрам. Ён глядзеў на ўсе вочы. Але з тае прычыны, што апрача пустога станка перад ім нічога не было, дык і не мог нічога ўбачыць.

— Ці-ж не праўда, дзіўнае сукенца?—хвалілі ашуканцы і паказвалі прыгожы ўзор і фарбы, якіх на самай справе не было.

„Ды я ўсё-ж не дурань,—думаў чыноўнік.—Значыць, я непрыгодны для маёй пасады. Вельмі дзіўна. Няхай лепей гэтага ніхто не ведае...“ І ён таксама пачаў расхвальваць сукно, якога не бачыў.

— Так, прыгожае сукно,—паведаміў ён імператару.

У горадзе ўсе толькі і гаварылі пра гэтае дзіўнае сукно.

Нарэшце сам імператар пажадаў убачыць сукно, пакуль яно знаходзілася яшчэ на станку. З цэлаю світай блізкіх прыдворных служак, сярод якіх знаходзіліся і міністр з чыноўнікам, што ўжо бачылі сукно, ён пайшоў да хітрых ашуканцаў.

— Ці-ж не праўда, цудоўнае сукно?—гаварылі прастадушныя чыноўнікі.—Паглядзіце толькі, ваша вялікасць, які ўзор, якія фарбы!—і пры гэтым яны паказвалі на пусты станок, бо думалі, што другія бачаць сукно.

„Што гэта?—думаў імператар.—Я-ж нічога не бачу... проста дзіўна... дурны я, ці што, або нядатны ў імператары? Гэта страшней за ўсё, што магло-б здарыцца са мной“.

— О, вельмі прыгожае!—сказаў імператар.

Ён са здаволеным выглядам ківаў галавою і разглядаў пусты станок. Ён не хацеў прызнацца, што нічога не бачыць. І ўся світа, якую ён прывёў з сабою, пазірала на ўсе вочы, але ўсе бачылі не больш як іншыя і ўсё-такі сцвярджалі ўслед за імператарам: „О, якое хараство!“ і раілі яму надзець новую вопратку з цудоўнай тканіны ў час урачыстай працэсіі, якая хутка мелася адбыцца.

— Выдатна! Цудоўна!—пераходзіла з вуснаў у вусны і ўсе былі ў захапленні. Цар выдаў абодвым ашуканцам па ордэну ў пятліцу і па тытулу тайнага прыдворнага ткача.

Усю ноч перад раніцай, у якую мелася адбыцца працэсія, ашуканцы не спалі і працавалі пры свечках. Усе маглі бачыць, як яны заняты падрыхтоўкай новай вопраткі для імператара. Яны прытварыліся, нібы здымаюць сукно з станкоў, рэзалі велізарнымі нажніцамі пустое паветра, шылі іголкамі без нітак і нарэшце абвясцілі: „Ну, вось і гатова вопратка“.

Імператар сам з'явіўся да іх з галоўнымі прыдворнымі служкамі, і ашуканцы падымалі рукі ўгору, нібы трымалі ў іх нешта, і прыгаварвалі:

— Глядзіце, вось нагавіцы, вось мундзір, вось мантыя...—і гэтак далей.— Лёгкія, як павуціна! Можна падумаць, што на целе нічога няма, але ў гэтым і выяўляецца ўся перавага!

— Так,—згаджаліся царскія служкі, але нічога не маглі ўбачыць, бо перад імі нічога не было.

— Дазвольце, ваша імператарская вялікасць, зняць вашу шаноўную вопратку, сказалі ашуканцы.—Мы надзенем на вас новую перад вялікім люстрам.



Імператар зняў сваю вопратку, а ашуканцы зрабілі выгляд, што надзяюць на яго штуку за штукай новую вопратку, сатканую і пашытую ім. Яны хапалі яго за пояс і прыкідваліся, нібы прывязваюць нешта такое што павінна ўяўляць сабой шлейф, а імператар круціўся ва ўсе бакі перад люстрам.

— Як дзіўна яна аблягае вас! Як цудоўна ляжыць!—захапляліся ўсе.— Які ўзор, якія фарбы! Якое каштоўнае ўбранне!

— Там унізе падрыхтован балдахін, які панясуць над вашай вялікасцю ў час урачыстай працэсіі,—паведаміў галоўны цэрамоніймайстар.

— Ну, усё ўпарадку?—спытаў імператар.—Ці-ж не праўда, як добра ляжыць?—і пры гэтым ён яшчэ пакруціўся перад люстрам, бо павінен быў паказаць усім, што аглядае сваё новае ўбранне.

Камергеры, якія павінны былі несці шлейф, нахіляліся да падлогі, нібы падымалі шлейф. Яны трымалі перад сабою рукі ў паветры; яны не адважваліся паказаць, што нічога не бачаць...

І вось імператар важна ішоў пад пышным балдахінам, а публіка на вуліцах і ў вокнах крычала:

— О, якая беспадобная новая вопратка імператара, які дзіўны шлейф у яго мантыі, як усё прыгожа ляжыць!—Ніхто не хацеў паказаць, што ён нічога не бачыць, гэта азначала-б, што ён або непрыгодны для сваёй пасады, або зусім дурны. Ні адна з ранейшых царскіх вопратак не выклікала такой зацікаўленасці.

— Ды на ім-жа нічога няма!—раптам закрычала маленькае дзіця.

— Вы чуеце голас нявіннага дзіцяці?—сказаў яго бацька, і людзі пачалі шаптаць адзін аднаму на вуха словы дзіцяці:—На ім нічога няма. Вось гэтае маленькае дзіця кажа, што на ім нічога няма!

— Ды на ім-жа нічога няма!—закрычаў нарэшце ўвесь народ.

Імператару стала нязручна, бо яму і самому здавалася, што народ праўду кажа; але ён падумаў: „Цяпер застаецца толькі адно—трымаць сябе з гонарам“. Ён прыняў яшчэ больш горды выгляд, а камергеры паранейшаму неслі за ім шлейф, якога зусім і не было.



# АД КАСТРА
# ДА ЭЛЕКТРЫЧНАЙ ЛЯМПАЧКІ

## Касцёр сярод хаты

Кожны дзень, як пачынае змяркацца, мы запальваем электрычнасць, лямпу, газ—што ў каго ёсць. Але не знойдзецца такога чалавека, які-б расклаў сярод хаты касцёр і сеў пры такім святле вячэраць або працаваць. Такога чалавека палічылі-б дурным.

А вось гадоў тысячу таму назад усе людзі раскладалі кастры сярод хат. Ні печаў з комінамі, ні лямп, нават лучыны не мелі яны. Дым ад кастра выходзіў праз дзірку ў страсе на двор, але і ў хаце яго заўсёды было поўна. Ад кастроў часта здараліся пажары, людзі слеплі,—дым выядаў вочы.

Чаму-ж гэта так было? Проста чалавек у той час не ведаў яшчэ другіх спосабаў для абагравання і асвятлення хаты.

## Лучына замест кастра

Калі з'явіліся печы, роля кастра зменшылася: ён патрэбен быў толькі для святла. Але-ж на печ і на касцёр ішло многа дроў, ад кастра было горача і дымна. Значыць, шкоды касцёр прыносіў больш, чым карысці. І навошта раскладаць цэлы касцёр, калі невялічкая шчэпка можа даць патрэбнае святло? Вось гэта і навяло людзей на думку аб лучыне.

Для таго, каб лучына гарэла, яе трэба трымаць запаленым канцом уніз. Тады прыдумалі такі спосаб: зрабілі спецыяльны свяцец—слупок і ўтыкалі ў яго лучыну (рыс. 1).

Лучына была вялікай вынаходкай для свайго часу.



Рыс. № 1

# Першая лямпа

З часам людзі заўважылі, што лепш гарыць лучына смольная. Значыць для агню смала важней за дрэва. А калі так, дык варта абмакнуць любую галінку ў смалу і яна будзе гарэць лепш за лучыну.

Там, дзе не было смалы, карысталіся салам.

Так з'явіліся першыя факелы.

Пасля гэтага не цяжка было дадумацца і да першабытнай лямпы: узялі смалы, налілі ў пасудзіну і запалілі. Вось і лямпа. Дарма, што яна вельмі дыміць, што яна без кноту, без шкла. З часам дадумаліся і да ўсяго гэтага.

Шмат вякоў вучоныя і вынаходцы ўпарта працавалі над тым, каб удасканаліць лямпу. Чаго толькі не прыдумлівалі! І якіх толькі лямп не рабілі! Адну з такіх лямп вы бачыце на рысунку № 2. Гэта лямпа ўжо мае шкло, хоць не такое, як цяперашнія. Пасудзіна з маслам (газы тады яшчэ не было) зроблена збоку вышэй кнота. Гэта для таго, каб масла магло лепш падымацца па кноту да полымя.



Рыс. № 2

Гадоў восемдзесят таму назад людзі навучыліся здабываць газу. З таго часу лямпа стала прасцейшай па сваёй форме і самай пашыранай. У гарадах загарэліся першыя ліхтары.

# Лямпа без агню

Лямпа або свечка (свечкі людзі таксама прыдумалі не адразу) гараць полымем. На гарэнне траціцца шмат кіслароду. А кісларод—гэта самая каштоўная частка паветра. Кісларод патрэбен чалавеку, як рыбе вада. Значыць лямпа адбірае ў чалавека патрэбны кісларод.

І вось вучоныя зноў задумаліся над новай задачай—ці нельга-б зрабіць лямпу без полымя?

Гэтую задачу гадоў пяцьдзесят таму назад вырашыў адзін амерыканскі вынаходца Томас Альва Эдысон. Ён прыдумаў электрычную лямпачку. Гэта і ёсць лямпа без агню.

У электрычнай лямпачцы няма паветра: яно выкачана адтуль. Значыць дроцік у сярэдзіне лямпачкі гарэць полымем не можа: без паветра полымя не бывае. Дроцік проста накальваецца дабела ад электрычнай энергіі і дае святло.

Здавалася-б ужо лепшага святла і не прыдумаеш. Аднак вучоныя на гэтым не спыніліся. І зараз многія з іх упарта працуюць над тым, каб прыдумаць яшчэ танейшае і лепшае святло.

# КАВАЛЬ ВЯРНІДУБ

*Казка А. ЯКІМОВІЧА* *Рысункі В. ВОЛКАВА*

III *)

Гэтак лета пражылося,
А за ім, глядзіш, і восень
Ўсё хутчэй ды ўсё хутчэй
Павуцінне сваё тчэ.
Памярцвела ўся прырода.
Гразь і холад, непагода...
Дождж ліецца, як з вядра,—
Невясёлая пара...
У заморскія краіны
Гаманлівы рой птушыны
Адляцеў. І лес густы
Стаў маўклівы і пусты.

Медзвядзём дык мала гора—
Ім-бы мёд у вуллях спорыў
Ды вялася дзічына—
Для абедаў свежына.
А калі зіма заляжа—
Іх таксама не застрашыць:
У бярлозе да вясны
Перасцяць зіму яны.
Замест мёду, сваю лапу
Будзе Мішка касалапы
Ссаць і марыць аб вясне
У салодкім, як мёд, сне.

А Параску з Вярнідубам
Восень мачыхай нялюбай
Сустракае ў шалашы.
Сумна стала на душы.
Пушча хмурая, пустая
Жалем сэрца працінае...
Холад, голад гоніць іх
Прэч адгэтуль, як чужых.

І рашылі ўсе нарадай,
Што не знойдзеш іншай рады—
Хоць-бы што там ні было,—
Як вярнуцца у сяло.
Тут Параска-маладзіца
На мядзведзіцу садзіцца,

А сынок медзведзянят
Строем выстраіў у рад,
Ды за маткай па сляду
Мчыцца з імі Вярнідуб.

Вось і вёска. Што за жахі?
Скамянелі ўсе ад страху.
Праўда гэта, а ці сны
Сняць у ясны дзень яны:
Што за дзіва? Якім чынам
На мядзведзіцы жанчына?!
Як казак яна—вярхом
Мчыць-нясецца кумілём.
Толькі гразь з-пад лап калматых
Разлятаецца на хаты.
І ад страху ды бяды
Ўсе ўцякаюць—хто куды...
Ледзь Параска іх спыніла,
Ледзве іх угаманіла.
Ды, падзякваўшы сяброў—
Медзвянятак-жартуноў
І мядзведзіцу—іх матку,—
Адпраўляюцца ў хатку
У знаёмую яны
Без таварышаў—адны.

На канцы на самым вёскі,
Ля кудравай ля бярозкі,
Радам з кузняю старой,
Спарахнелай і гнілой,—
Там стаяла яе хатка,
А ля хаткі—плоцік, градкі.
Трохі ўбок, відаць здалёк
І палетак і лясок.

Тут Параска як ніколі
Зажыла, нібы на волі.
Яна прала сваю пражу,
Вярнідуб у кузні пляжыў,
І магутны той каваль
Як ніхто каваў.

Калі зробіць далато—
Не паломіш год за сто.
Калі выкуе гапор

---

*) Працяг. Пачатак глядзі ў № 11.



Ці нарог альбо сахор—
Не нацешацца дзядзькі:
Вось каваль у нас які!
Свет прайдзі—няма другога
Каваля такога.
Пагалоска бегла ўдаль:
Цуда-дзіва—не каваль!
І валіў сюды народ
Як вясною ледаход.

Рад каваль. Здаволен працай
Вочы весела іскрацца.
Толькі-ж звер ці чалавек
Не вяселяцца ўвесь век.

І аднойчы на прадвесні
К кавалю прыходзяць весці:
Пра яго дачуўся цар,
Той краіны уладар,

І на ўсю сваю сталіцу
Ён ад гневу кіпяціцца.
Стаў сярдзіты нібы звер,
Зажадаў ён хоць цяпер
Учыніці згубу—
Знішчыць Вярнідуба.
Бо куды ж той варт закон,
Што не выканаўся ён?
Сабірае свае войска,
Каб паслаць яго у вёску
Каваля таго знайсці,
У сталіцу прывясці
І ля царскага двара
Як злачынцу пакараць.
А Параску-маладзіцу
Кінуць ў цёмную цямніцу.

Чарней хмар і цяжэй гор
Стала маці з гэтых пор.
Жальбой горкаю занылa.
Жыць нявесела, няміла.
Слёзы рэчкамі цякуць
На завяўшую шчаку.
„Родны сынку, сынку мілы,
Чуе сэрцайка магілу...
Чуе чорную тугу...
Ой куды-ж я пабягу,
Каму выплачу душу
І пра гора раскажу,
Як не стануць твае вочы
Мне свяціць і ўдзень і ўночы?".

Вярнідуб нахмурыў бровы,
Ёй адказвае сурова:
„Няма сілы такой,
Каб скарыўся я ёй!
І жыццё ў барацьбе
Я здабуду сабе.
Лепш у чэсным баю
Галаву я сваю,
Ведай маці, складу,
Чым на ганьбу пайду".
Так сказаў і паляцеў
Ён разгневаны, як леў,
Ў сваю кузню у старую,
Спарахнелую, гнілую.
Там на цара галаву
Стаў каваць ён булаву.

Як маланкі з пярунамі—
Звоніць молат дні за днямі,
Іскры скачуць па страсе,
Гром ваколіцу трасе.
І на мілі чутна—глуха
Свішча мех, як завіруха.
Так каваў каваль, пакуль
Не скаваў ён булаву
Дзесяці пудоў вагою,
З ручкай зграбнаю крывою.

А зрабіўшы упару,
Як шпурнуў яе ўгару,—
Нібы водгулле гарматы,
Загудзела булава так.
Загрымела, нібы гром,
Скаланула ўсё кругом—
Ў небе хмары, ў лузе кветкі,
Пушчу цёмную, палеткі.

Вышай лесу, вышай гор
Прашумела, як віхор,
І назад яна нясецца.
Ў каваля трапеча сэрца,
Бо рашыў каваль сумленна
Сустракаць яе каленам,
Каб дазнацца, што за гарт
І чаго мацунак варт.
Раптам грук, як з піруна...
Ўсё навокал застагнала.
Ды не здрадзіла яна:
Нават іскра не упала—
Нібы волас з галавы—
З гартаванай булавы.

Калі-ж скончыў гэту працу,
Стаў каня каваль старацца,
Бо які-ж ваяка ён
Супроць царавых калон?
Але колькі бачыў коней,
Усе гнуцца пад далоняй,
Пад магутнаю рукой
Выгінаюцца дугой.
Дзе-ж на гэтакіх канёх
Ён у свет пусціцца мог,
Ды 'шчэ й спрытна увіхацца,
Калі прыдзецца змагацца?

Вось аднойчы бачыць гэта:
На кабылцы цёмнагнедай,



Без паўшораў, без атос
Перакупшчык цэлы воз
Па сяле ануч правёз.
Пра кабылку скажам проста:
Нібы бубен, ад каросты
Паліняў-аблез жывот,
Тры валоссі—яе хвост.
Як ражон ўзнялася спіна,
Паўпадалі ўглыб пахвіны.
І без жадных без надзей
Да яе каваль ідзе.
На рабрыны, як драбіны,
На ражоністую спіну
Жартам ён далонь кладзе.
—Гэта-ж дзіва!—ўскрыкнуў тут ён,—
Не кабылка—проста цуда!
Пад магутнаю рукой
Не згінаецца дугой!

Заплаціўшы за кабылку,
З ашчасліўленай ухмылкай
На яе каваль садзіцца,
Ў пуць-дарогу едзе мчыцца—
За плячыма з булавой
Ды з мятлой над галавой.

Рысяком яна сігае
Міма лесу, каля гаю,
Цераз поле і кусты,
Цераз межы і платы,
І нідзе не аддыхае;

Толькі ногі падгінае
Вярнідуб наш у каленях,
Не збівалі каб каменняў.

*(Працяг будзе)*

# АДГАДАЙ

## Народныя загадкі



1. Белае, круглае доўга спала,
   Раптам трэснула, запішчала,
   І мёртвае жывым стала.



2. Цэлы дзень лятае,
   Усім назаляе,
   А ноч настане,
   Тады перастане.



З барадою, а не мужык,
З рагамі, а не бык,
Дояць, а не карова,
Лыкі дзярэ,
А лапцей не пляце.



4. Нічога не згубіла,
   А ўсё шукае.

---

## Адказы на загадкі

**„ЗАГАДКА ЦЕСЛЯРА“ (№ 9)**

Вось такую затычку трэба зрабіць, каб яна падыходзіла да ўсіх трох дзірак.

**РЫБА І ПТУШКА (№ 10)**

А вось так складаюцца з адных і тых-жа частак рыба і птушка.







ІСКРЫ ІЛЬІЧА
ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАННЕ ЮНДЗЕТСЕКТАРА ДВБ
ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ ОКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ
СНЕЖАНЬ 1935 № 12

ЦАНА 30 кап.



# ПРЫГОДЫ БОБІКА




1. „Пакуль я не вярнуся, сядзі ціха і вартуй хату“,—наказваў Петрык свайму прыяцелю Бобіку.



2. Сумка стала Бобіку і ён парашыў чым-небудзь заняцца. Мігам паляцелі на падлогу цацкі, затрашчаў дыван...



3. Бобік разгуляўся не на жарты. Услед за дыванам ён ачысціў шафу...



4. Дайшла чарга і да настольнай электрычнай лямпы.



5. Але тут здарылася нешта незвычайнае. Патрон як жывы моцна кальнуў у нос. Бобік перапалохаўся, заскавытаў і кулём зляцеў з стала.



6. Вярнуліся дахаты Петрык з бацькам, глядзяць і вачам не верацъ: у хаце цэлы пагром, а Бобік ледзь жывы ляжыць у карзіне дагары нагамі...

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Друкарня імя Сталіна 25.000 экз. Заказ № 1094. Уп. Галоўлітбела № Б—3665.